Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
| --- | --- | --- |

№. 20 Вільня, Субота, 26-га чэрвеня 1926 г. Год I.

## Трэбуем амністыі!

Усюды, дзе істнуе ўціск у тэй ці іншай форме,—істнуе і барацьба. Там, дзе праца паняволена капіталам, ідзе барацьба сацыяльная. Дзе палітычную ўладу захапіла дужэйшая кляса,—барацьба палітычная. Дзе адна нацыянальнасьць уціскае другія — паняволеныя, там няўхільна разьвіваецца нацыянальная барацьба.

Імкненьне прыгнечаных сацыяльна, палітычна ці нацыянальна груп насяленьня да вызваленьня—гэта зьявішча агульнае і абсалютна няўхільнае. Гэта—ўсё роўна, як імкненьне кожнага чалавека да волі, да шчасьця, да дабрабыту. Але побач з ім мы бачым такжа ўсюды імкненьне да захаваньня сваей улады тымі, хто яе мае. Тут „паны палажэньня“, маючы ў сваіх руках увесь дзяржаўны апарат, выкарыстываюць гэнае сваё палажэньне, стараючыся ўсемі спосабамі абяссіліць свайго ворага. А найбольш практыкаваным спосабам зьвязаньня праціўніку рук зьяўляецца *пазбаўленьне яго волі.*

Якая гэта іронія, які гэта грубы зьдзек—гэная кара пазбаўленьнем волі для тых, хто змагаецца *за вызваленьне* сваей клясы ці нацыянальнасьці! Дый у выніках сваіх такі спосаб барацьбы з вызвольнымі рухамі ў канцы канцоў дае вынікі прост процілежныя мэтам, стаўляным уціскаючымі. Бо зламаць і згнаіць у вастрозе можна адзінкі, сотні, тысячы,—але нельга-ж туды пасадзіць міліёны—цэлыя клясы ці нацыянальнасьці! Наадварот: *ідэя, за якой ідуць масы, заўсёды мусіць перамагчы.*

У Польшчы ад першага мамэнту яе ўваскрасеньня йдзе вострае сацыяльнае, палітычнае і нацыянальнае змаганьне. І ў гэтым змаганьні, якое не супыняецца, пускаюцца ў ход самыя жорсткія спосабы. Як некалі ў царскай Расеі, *„законнай падставай“* дзеля арышту і прысуду для барацьбітаў за вызваленьне працоўных, за зямлю сялянам, за нацыянальныя правы „меншасьцяў“—зьяўляецца той самы карны кодэкс, па якому царскія суды слалі ў катаргу і змагароў за незалежнасьць Польшчы, у тым ліку—Язэпа Пілсудскага...

Але—мера ўсялякіх крыўд, якія церпяць перадусім працоўныя, перапоўнілася.

„Ня можа быць у дзяржаве зашмат несправядлівасьці ў адносінах да тых, што іншым працу сваю аддаюць!“—Інакш—дзяржаве пагражае пагібель!—У імя гэтага прынцыпу і выступіў марш. Пілсудскі, як сам-жа аб гэтым заявіў ураз-жа пасьля аружнае перамогі над тымі, хто дапускаў „лішне многа несправядлівасьці“.

Мы ня бачым, каб п. Пілсудскі простай дарогай ішоў да поўнага зьніштажэньня *прычыны* ўсіх гэных нягодных праяваў у жыцьці Польскае дзяржавы. Мы ня верым, каб на тым шляху, на які ўзышоў новы ўрад Польшчы, наагул было магчыма радыкальнае лячэньне ад разьядаючае Польшчу хваробы. Але мы маем права і абавязак моцным голасам дамагацца таго, каб прынамся былі безадкладна зьліквідаваны *вынікі* гэнага перапаўненьня чары ўсіх крыўд, якое папхнула і Пілсудскага да аружнага выступленьня. Мы маем права і абавязак трэбаваць, каб усе барацьбіты, якія за свае імкненьні да сацыяльнае, палітычнае і нацыянальнае волі аказаліся пакаранымі няволяй, былі ўраз-жа звольнены з вастрогаў. Мы маем права і абавязак трэбаваць *поўнае амністыі для ўсіх палітычных вязьняў*, бароўшыхся за свае вызвольныя ідэі.

Новы ўрад *разумее* неабходнасьць амністыі для так-званых „палітычных праступнікаў“. Новы ўрад разумее, што без такое амністыі ўсьцяж будзе перад палітычнымі вязьнямі, іх бацькамі, жонкамі, дзяцьмі і наагул блізкімі да іх людзьмі стаяць недаўменнае пытаньне: а чаму-ж не пакараны вінавайцы маёвага перавароту?!—Але новы ўрад *гавора* пакуль-што толькі аб амністыі для *невялікае часткі палітычных вязьняў* — для тых, што бароліся *за нацыянальнае вызваленьне.* Бо ці-ж былі ў нас працэсы, у якіх-бы ад нацыянальных ідэалаў былі аддзелены ідэалы палітычна-сацыяльныя? Ці магчыма гэта ў *народзе сялян і работнікаў*, якім зьяўляюцца, прыкладам, беларусы?!

Урад выразна хоча *звузіць* амністыю. І мы тым больш шчыра мусім прывітаць выступленьне ў Сойме нашых паслоў, сьпешную прапазіцыю якіх аб амністыі падаем побач.

Але не адзін урад так адносіцца да справы амністыі. У Сойме варожае становішча ў адносінах да яе занялі ізноў-жа тыя партыі, якія найбольш вінаваты ў крыўдах і несправядлівасьцях, так востра асуджаных марш. Пілсудскім. Пасьля прамовы пасла Тарашкевіча, які дамагаўся пастаноўкі справы амністыі на парадку дня першага-ж пасьля перавароту паседжаньня Сойму,—*дамаганьне гэтае было адкінена...*

Дык калі ўрад ня хоча дайсьці да лягічнага канца ў справе амністыі, калі соймавая большасьць хацела-бы справу гэтую зусім пахаваць у соймавым архіве, дык голас павінна падняць *грамадзянства*, а перадусім—*прэса.* І мы, пішучы гэтыя радкі, далучаем наш голас да голасу ўсенародных нашых выбранцаў, заклікаючы іх цьвёрда і рашуча падтрымліваць усімі даступнымі ім спосабамі трэбаваньне:

*-- АМНІСТЫІ!*

## Сьпешная прапазіцыя

**паслоў з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, Беларускага Клюбу, Украінскага Клюбу, Камуністычнае Пасольскае Фракцыі і Незалежнае Хлопскае Партыі—**

**ў СПРАВЕ АМНІСТЫІ.**

З усіх канцоў Польскае дзяржавы ўсё больш магутна чуваць **трэбаваньне звальненьня палітычных вязьняў.**

Калі 12-га мая войскі Пілсудскага выступілі проці ўраду Вітаса, шырокія масы працоўнага народу былі перакана्ны, што першым дзелам пераможцаў будзе звальненьне з вастрогаў тых, хто быў кінуты туды за праступкі проці карных кодэксаў, учыненыя **з пабуджэньняў палітычных і сацыяльных.**

Тымчасам і далей адбываюцца масавыя арышты і выносяць цяжкія прыгавары на падставе царскіх і кайзэраўскіх карных кодэксаў. І далей украінскія і беларускія землі зьяўляюцца арэнай страшэннага ўціску тутэйшага насяленьня. І далей работніцкая і сялянская прэса, а так-жа прэса ўцісканых нацыянальнасьцяў гнецца пад абухом канфіскацыяў, працэсаў і закрываньняў.

Дзеля вышэйсказанага падпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм рачыць ухваліць:

**1) Дзеля безадкладнага звальненьня ўсіх палітычных вязьняў і павароту ім поўных грамадзкіх правоў, а так-жа дзеля спыненьня працэсаў, распачатых за праступкі з пабуджэньняў палітычных і сацыяльных, ды за праступкі на груньце барацьбы за нацыянальныя правы,—Сойм заклікае Урад, каб ураз-жа падаў Сойму праект адноснага закону, а таксама праект закону аб скасаваньні ўсіх абязываючых на тэрыторыі Польшчы проціработніцкіх і процісялянскіх карных кодэксаў—расейскага, аўстрыяцкага і прускага.**

**2) Сойм заклікае урад, каб безадкладна падаў Сойму праект закону аб скасаваньні кары сьмерці і даразных судоў на ўсім абшары Польскае Рэспублікі.** *(52 подпісы).*

Варшава,

22-га чэрвеня 1926 г.

## „Экспозэ“ прэм‘ера перад журналістамі.

**На пярэдадні адчыненьня Сойму прэм. Бартэль сабраў да сябе журналістаў, якім і вылажыў пагляд ураду на сваю працу з Соймам у найбліжэйшы час.**

Перадусім ён прачытаў пісьмо Старшыні Сойму, дзе той скардзіцца на лаянку ды абражаньне прэсай Сойму, што падкапывае сілу і павагу гэтай найвышэйшай дзяржаўнай установы. Прэм‘ер прасіў журналістаў не пераступаць рубяжоў дапусьцімае крытыкі.

Як ведама, найбольш бэсьціць Сойм наагул прэса марш. Пілсудскага....

Парлямантарызм, — казаў далей прэм‘ер, — вельмі добрая рэч, ала для Польшчы яго трэба яшчэ неяк—датарнаваць да практычных патрэбаў краю... „Трэба сьцьвярдзіць, што дасюляшняя форма парлямантарызму, ці народа-ўладзтва часта была для Польшчы шкоднай, дый наагул — ня вышла Польшчы на здароўе“. Польскі парлямант пладзіў найгоршую форму бюракратыі: бюракратыю, служачую не дзяржаве, але—партыйным інтарэсам соймавых клюбаў... Дык ясна, што трэба зьмяніць Канстытуцыю, каб—зраўнаважыць уладу Сойму з уладай выканаўчай—Прэзыдэнта (ці—той-жа бюракратыі)...

Трэба даць прэзыдэнту права дэкрэтаваць законы. Гэта—„прывілей дзяржаўнай неабходнасьці“. Гэтай працы хуткай і рашучай улады вымагае — як справа ўпарадкаваньня гаспадарчага жыцьця, так сама і ўзгадненьня законадаўства ў Польшчы, што дагэтуль апіраецца на чужых законах. Нічога гэтага не зрабіў дагэтуль дый ня здольны зрабіць Сойм... Упарадкаваньня адміністрацыйных спраў так сама ня здольны зрабіць Сойм: уся дзяржаўная машына Польшчы трэбуе рэмонту. Дык ясна ж, што—паклікалі інжэнераў, каб яе рэмантаваць... Добра было-б — дзеля хуткага ды грунтоўнага рэмонту... затрымаць гэтую машыну. Але гэтага, нажаль, няможна зрабіць, як з іншай машынай. Дык трэба рэмантаваць паволі... Прэм. выразіў надзею, што Сойм паможа ўраду ў гэтай працы—абыйсьціся бяз Сойму!

Далей прэм‘ер адказываў на запытаньні журналістаў.

Першае пытаньне было папросту—„правакацыйнае“: „Як урад маніцца паступіць з Соймам: ці адсрочыць яго, ці — распусьціць“... „Запалёны парлямантажыста“ п. Бартэль навет не зразумеў „падвоху“, бо зусім „па-пілсудскаму“ адказаў, што **гэта будзе залежаць ад таго, як будзе Сойм сябе вясьці...**—Што Сойм зробіць з урадавымі праектамі, тое-ж самае... ўрад зробіць з Соймам!

Здавалася-бы, пакуль яшчэ істнуе нязьмененая Канстытуцыя, дык як-быццам у Сойму трэба было-б запытацца, што ён мае зрабіць з урадам Бартля: выразіць яму даверые, дазволіць урадаваць, ці—скіне?! Але аб гэтым неяк „забыліся“....

Прэм‘ер мае надзею, што Сойм перадусім дасьць Прэзыдэнту права распускаць Сойм, калі Прэзыдэнт знойдзе гэта патрэбным. А далей— аб чым клапаціцца Сойму? Усё зробіць прэзыдэнт з сваім урадам. „Запалёны парлямэнтажыста“ зайшоў навет так далёка, што абяцаў, што прэзыдэнт сам „дэкрэтам прыме бюджэт на апошнюю чверць году“, — каб не турбаваць паноў паслоў новым склікаданьнем дзеля гэткай драбязы Сойму...

---

Запытана, як доўгай мае быць сэсія Сойму,— ізноў не заўважыўшы „падвоху“, — п. Бартэль спакойна адказаў, што „ўрад трэбуе, каб да паловы ліпня ўсё было скончана“...

На запытаньне, ці ўрад—у разе няпрыняцьця Соймам яго праектаў—паставіць „пытаньне аб даверыі“ (пагрозіць выйсьці ў адстаўку),—прэм‘ер адказаў, што тады „паставіць пытаньне ня толькі аб даверыі, але і аб... істнаваньні“. — Не дадаў толькі выразна: аб істнаваньні каго – ураду, ці Сойму?!

На запытаньне, што зробіць урад, калі Сойм ня прыме яго праектаў, ані захоча разыйсьціся,— п. Бартэль вельмі дасьціпна адказаў: „у матэматыцы я тэарэтык, але ў палітыцы — практык... — Паглядзім, што зробіць Сойм на практыцы“. — Тады, відаць, і п. Бартэль выбярэ нешта „практычнае“, ня вельмі пытаючыся, што кажа— „тэарэтычная“ Канстытуцыя...

Урэшце нехта з журналістаў задаў прэм'еру найбольш цікавячае „веручую частку“ нацыянальных меншасьцяў у Польшчы пытаньне: ці робіцца, што ў справе гэтых меншасьцяў? Прэм'ер адказаў: „урад мае ў праекце цэлы рад рэчаў першараднай вагі, якія знаходзяцца ў апрацоўцы“. Але —„ці справа гэта ўжо апрацавана, ня ведаю; думаю, што так. Гэтыя справы — пільныя, але, нажаль, усе міністры так страшэнна заняты сваімі бягучымі справамі, што навет і гэтыя важныя рэчы адкладаюцца і позьняцца“...

Дык вось і—разьбярыся, чытач, сам у гэтым адказе!

З аднаго боку—„тэарэтычна“—справа вельмі пільная, дый штосьці там „апрацоўваецца“; ня ведае толькі прэм'ер, што, як і калі... Але з другога—практычнага боку—паны міністры, пры найвялікшай „хэньці“, выбачайце, — але запраўды-ж, далібог-жа! ня маюць часу...

Калі-ж да ўсяго дадаць, што пан прэм'ер назваў сябе — „практыкам у палітыцы“, дык усё будзе нам зусім ясна.

„Заясьнеў золак палёгкі...—Сьвітае!,—як заліваецца казённы салавей—у „Беларускім Слове“ п. Паўлюкевіча...

# У Сойме і каля Сойму.

## Паседжаньне 22 чэрвеня.

22 чэрвеня пачаліся ізноў паседжаньні Сойму.

Ад гэтай сэсіі Сойму так многа спадзяецца як правіца, таксама і лявіца, ня кажучы ўжо аб ўрадзе... Не спадзяецца толькі нічога—працоўнае насяленьне краю і — нацыянальныя меншасьці! Усё пытаньне — у тым, ці Сойм знойдзе ў сабе столькі грамадзкай адвагі ды самапашаны, каб памерці з гонарам, ці—будзе надалей—ужо толькі і выключна дзеля пэнсіяў!—служыць пакорнай прыладай у руках фактычнай улады ў дзяржаве?!

А гэтая фактычная ўлада яшчэ раз ярка выявіла свае адносіны да Сойму. — На паседжаньні Сойму былі ў поўным складзе ўсе міністры, за выключэньнем толькі—марш. Пілсудскага, які відаць, ня здолеў перамагчы сваю пагарду да польскага парляманту.

Паседжаньне адчыніў віцэ-марш. Сойму **п. Дашыньскі** (пэпэасавец), які першым чынам прачытаў ліст марш. Сойму Ратая—аб яго адмове ад гэтага свайго становішча. Па прапазіцыі п. Домбскага (пястоўца, як і сам Ратай), Сойм большасьцю галасоў — ня прыняў адстаўкі п. Ратая. Але з прычыны таго, што галасавала за гэта толькі нязначная большасьць Сойму, марш. Ратай паўторна адмовіўся. Дык на наступным паседжаньні першым пунктам маюць адбыцца выбары новага маршалка Сойму. Цікава, што проці Ратая галасуе ўжо згодна ўся правіца. — Ці-ж гэта знак аканчальнага расколу Хіена-Пяста?!.

## Экспозэ міністра фінансаў.

Далей атрымлівае слова **мін. фінансаў Клярнэр.**

Першым чынам міністар сьцьвярджае, што раўнавагі ў бюджэце Польшчы, як ня было, так і няма. Першы праект бюджэту на 1926 год яшчэ мін. Зьдзеховскага лічыў выдаткаў на 1 мільярд 730 мільёнаў злотых, а даходаў — на 1 мільярд 528 мільёнаў. Гэтыя лічбы сталіся цяпер зусім нерэальнымі. Перад усім трэба значна павялічыць выдаткі.—З прычыны ўзросту дарагоўлі ўрадоўцам трэба скасаваць зробленае зьмяншэньне пэнсіяў, хаця-б часткова. Дый наагул выдаткі аблічаліся па курсу даляра $6^1/_2$ злотых, тады як цяпер ён—больш за 10... Дзеля таго на рэшту году выдаткі павялічацца ня меньш, як на 58 мільёнаў злотых. Гэткім чынам недахват у бюджэце за год мае быць 260 мільёнаў злотых.

Дзе ж узяць грошаў на яго пакрыцьцё?

Міністар радам лічбаў даводзіць, што падаткавыя ўплывы за першыя 5 месяцаў паказываюць поўную рэальнасьць агульнай лічбы даходаў. Далей аблічае, што, дзякуючы абмяжаваньню выдаткаў у гэтыя 5 месяцаў, гадавы недахват зьменшыўся на 70 мільёнаў злотых?

Гэткім чынам усяго асталося пакрыць дэфіцыту (недахвату) да канца году ўжо толькі 190 мільёнаў.

Але як пакрыць гэтую суму?

Міністар кажа, што рабіць дзеля гэтага пазыкі ў краі ці заграніцай — ня можна і шкодна (калі-б далі!?)... Пазыкі патрэбны, але — на іншыя рэчы. Друкаваць папяровыя грошы таксама ня можна, бо—гэта руйнуе валюту. Міністар урачыста заяўляе, што ўрад ня будзе рабіць інфляцыі. — „Хай будзе гэта ведама ўсім!“, кліча міністар, якому яго папярэднік, п. Чэховіч, толькі што надрукаваў на бягучыя выдаткі „маральнай рэвалюцыі“ на 30 мільёнаў паперак...

Дык скуль-жа ўзяць даходаў на выдаткі? — Трэба абмяжаваць выдаткі ды павялічыць даходы,—каротка кажа міністар, сам толькі-што павялічыўшы выдаткі на 60 мільёнаў... Дык ясна: трэба павялічыць падаткі!

Далей міністар доўга гаворыць пекныя словы аб тым, што ня трэба руйнаваць згалелага падатніка, што „бедны грамадзянін, згалелы край і пусты скарб,—гэта ўсё адно“... І ўсё гэта гаворыцца толькі дзеля таго, каб уканцы заявіць, што на гэтыя тры месяцы — ад ліпня да верасьня ўключна—падаткі будуць... павялічаны на 10 процантаў (—на дзесятую частку істнуючых)! Таксама будуць павялічаны і ўсе аплаты на карысьць скарбу—паштовыя, гербавыя (штэмплёвыя зборы) і г. д...

Адначасна міністар мае, калі не праект, дык —„магчымасьць“—павялічыць акцыз на гарэлку, падатак маёнткові, зборы мытныя... Ці скарыстае новы прыкашчык польскай буржуазіі, больш „маральны“, як яго папярэднікі, з гэтай магчымасьці, — няведама...

Гэтая надбаўка на ўсе падаткі мае даць 115 мільёнаў, разам з павялічэньнем акцызаў — 150 мільёнаў. А лічучы на 40 мільёнаў эканоміі на выдатках (?!), міністар быццам іздолее, як верыць сам, зьліквідаваць недахват 190 мільёнаў.

Далейшы агляд экспозэ: аб валюце, прадукцыі і інш.,—дамо асобна. Цяпер адзначым толькі, што ў канцы сваей прамовы міністар ад імя ўраду заявіў, што, калі Сойм у адпаведны час ня прыме пададзенага ўрадам бюджэту, тады ўрад — выйдзе ў адстаўку...

## Дыскусія аб экспозэ.—Заявы соймавых клюбаў.

**П. Гломбіньскі** — ад эндэкаў заявіў, што яго клюб—ня проці разгляду бюджэтнага праекту Міністра ў камісіі. У камісіі і пасьля ў Сойме яна выскажацца па сутнасьці. Але не давяраючы наагул ураду—ані ў унутранай, ані ў вонкавай палітыцы яго, — клюб эндэкаў галасоў сваіх за бюджэт ураду не падасьць.

**П. Зарэмба**—ад імя Клюбу П. П. С. заяўляе, што так сама галасаваць за бюджэт мін. Клярнэра ён ня будзе. Аптымізм міністра — неабаснаваны, дык—шкодны. П. П. С.—проці павялічэньня цяжару падаткаў,—бо не спагнаны з маючых клясаў маёнткові падатак. П. П. С. мае надзею (!), што гэтая гутарка ў Сойме — апошняя хвіля яго жыцьця...

**П. Голекса** (хадэк)—востра лае спраўцаў майскага перавароту, выражае спачуцьце і пашану „абаронцам законнага ўраду Вітоса і прэзыдэнта“, ганіць усю палітыку габінэту. Да бюджэту мае аднясьціся „рэчова“—ў камісіі.

Значна больш лагодны (!) да ўраду прадстаўнік клюбу „хрысьціянскіх“ (гэта значыць: найвялікшых!) абшарнікаў — **п. Дубановіч.** Ен прызнае, што праект бюджэту лічыцца з „дзяржаўнай неабходнасьцяй“. А за звальненьне пасаджаных у вастрог Пілсудскім генаралаў (буйных абшарнікаў...) гатовы і зусім падтрымаць урад „манархізаванага прэзыдэнта“...

**П. Бырка (Пяст)** згаджаецца перадаць праект у Камісію, але—каб толькі ня бачылі ў гэтым выражэньня даверыя клюбу Пяста да ўраду.

**Жыдоўскі Клюб** так сама заяўляе, што ня будзе галасаваць за бюджэт, але — востра бароцца проці яго ў Камісіі.

## Пратэсты радыкальнай апазіцыі ў Сойме.

Пасьля гэтага пасол „Клюбу Працы“ п. Косьцялкоўскі, які пачынае іграць „вялікую роль“ у Сойме, запрапанаваў—спыніць дыскусію, ці, інакш кажучы, — заткнуць рот усей радыкальнай апазіцыі—сялян і работнікаў *). Гэта выклікала страшэнна востры пратэст на ўсей запраўднай лявіцы Сойму.

Пасьля прамовы п. **Баліна** проці прапазіцыі, Сойм—143 галасамі проці 129—прымае „гільётыну“, адсякаючую галаву ўсей гэтай частцы Сойму.

Гэта выклікае такі скандал, што старшыня змушаны зрабіць перарыў.

Пасьля ўзнаўленьня паседжаньня пасол Варшаўскі (камуніст) ўнёс дзьве прапазіцыі: 1) каб адкінуць без разгляду бюджэт і 2) каб выразіць ураду недаверые. Віцэ-маршалак спрытна ставіць на галасаваньне першую прапазіцыю, за якую галасуюць толькі камуністы, нацыянальныя меншасьці і „Незалежная Сялянская Партыя“. Большасьць — проці яе. Тады другая прапазіцыя ўжо і не галасуецца...

Гэткім чынам, „уся“ апазіцыя яе вялічаства—польскай буржуазіі, быццам выражаўшая „недаверые“ ўраду, спрытна схавалася перад—пагрозай „бата“...

Паслоў Варскага і Воевудзкага, якіх маршалак выключыў на адно паседжаньне з Сойму, вынясла з залі на руках соймавая варта.

## Праграма працы Сойму.

Канвэнт сэньёраў апрацаваў праграму працы Сойму на найбліжэйшы час.—Да пятніцы будучага тыдня мае быць разгледжаны і прыняты бюджэт на трэці квартал году. Праект зьмены Канстытуцыі Сойм пачне разглядаць 2 ліпня.

Паслы Марэк (П П С) і Домбскі (Сялянск. Партыя) заявілі, што на першым-жа паседжаньні лявіца падасьць прапазіцыю распусьціць Сойм. — Пэўна-ж падасьць, бо наперад ведае, што — праваліцца...

Ніколі не зьніштажай свае беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

*) Мясцовы орган „Клюбу Працы“ „Kur. Wil.“ скромна не называе прозьвішча пасла, падаўшага прапазіцыю.

# Адказ на адказ.

Калі выйшаў з друку зборнік вершаў без пары памершага паэта нашага К. Сваяка (кс. Стэповіча) пад назовам „Мая Ліра“, выдатны літэратурны крытык **у пяцёх нумарох „Голасу Беларуса“** (№№ 27—31) зьмясьціў вельмі глыбокі аналіз душы песьняра і выкрыў першы раз тую глыбокую трагедыю душы паэта-ксяндза, гарачае сэрца якога, поўнае любві да Бацькаўшчыны, не магло пагадзіцца з фармальнай верай у справядлівасьць Бога, дапускаючую ўсе перажываныя нашым народам зьдзекі і няволю. Ксёндз-паэт нязвычайна балюча перажываў тую супярэчнасьць, якая істнавала паміж тым, што ён бачыў і адчуваў, і тым, у што афіцыяльна **мусіў** верыць, ды больш таго— **хацеў** верыць... Аналіз гэны быў настолькі правільны і ачывісты, што не запярэчыў яму ані сам паэт, які тады йшчэ жыў і быў у краю, ані блізкія да яго людзі.

Ужо пасьля сьмерці паэта мне давялося напісаць невялічкую заметку аб Сваяку ў „Беларускай Справе“. Зусім згаджаючыся з аўтарам памянёнае стацьці аб паэце і яго духовых перажываньнях, я толькі дапоўніў дадзенае там асьвятленьне драмы Сваяка, адзначыўшы, што яна паўстала на груньце ня толькі нацыянальнае крыўды Беларускага Народу, але і сацыяльнае *). — І я глыбока перакананы, што аўтар „Маей Ліры“, калі-б жыў, мог-бы толькі пацьвярдзіць слушнасьць маіх вывадаў. Дый яе найлепш пацьвярджаюць пададзеныя мной адрыўкі з вершаў Сваяка — тое, чаго ніхто і ніщто зьмяняць ці фальшаваць ня можа.

Але-ж тыя, што **пры жыцьці** Сваяка не маглі пратэставаць проці стацьці „Голасу Беларуса“, — цяпер, пасьля сьмерці паэта, узяліся за „работу“. Як: каб каталіцкі ксёндз ды мог так думаць і тое перажываць, на што я зьвярнуў увагу ў сваёй стацьці?! Гэта-ж „скандал“ для ўсяго духоўнага стану!...

І вось знайшоўся „прафэсіянальны“ крытык, які выступіў у хадэцкай „Biełar. Krynicy“ з абшырнай стацьцёй, у якой **„бароніць“** Сваяка ад робленых быццам яму мной **„закідаў“** і прадстаўляе яго, як найлепшага, найпакарнейшага сына касьцёлу, які і ня думаў нічога з таго, што гаворыцца ў прыведзеных мною ягоных вершах...

Ня буду спрачацца з „прафэсіяналам“: шкада на гэта часу і энэргіі, бо-ж трудна змушаць некага бачыць тое, чаго ён **ня хоча бачыць.** Адкажу толькі на некаторыя пункты выступленьня проці маей стацьці „Biełar. Krynicy“.

Перадусім, ня пісаў я гэтага, што думаў і думаю аб Сваяку, у мамэнт выхаду „Маей Ліры“, бо, як ужо сказаў напачатку, зрабіў гэта лепшы за мяне знаўца літэратуры і крытык Сваяка. Гэта-ж ведама дужа добра і рэдактару „Biел. Krynicy“! Наадварот, — **я запытаюся** рэдакцыю хадэцнага органу: чаму гэта **яна** не пратэставала пры жыцьці Сваяка проці артыкулу „Голасу Беларуса“, а так рашуча выступае цяпер проці мяне?! Ці няма тут часам крыху асабістае няпрыязьні іменна **да маей асобы,** а ня толькі да маіх **думак**?!...

Другое: я і ня думаў і ня думаю рабіць ніякіх **„закідаў“** Сваяку з прычыны яго драмы, паўстаўшае на груньце ўтраты веры ў бога і ягонуюнайвышэйшую справядлівасьць. **Закіды** ў гэтым маглі-бы рабіць толькі клерыкалы, якія ў сярэдні вякі палілі на агні кожнага, хто „асьмеліваўся“ ня верыць. З клерыкалізмам я ня маю нічога супольнага і ня толькі нічога не закідаю Сваяку, а, наадварот, скланяю перад ім галаву з найвялікшай пашанай за тое, што **не пабаяўся шчыра і адкрыта гаварыць аб тым, што перажываў.** Магла-бы „Biел. Krynica“ нападаць на мяне за маю стацьцю тады якраз, калі-б Сваяк жыў, і калі-б я, паставіўшы ўсе кропкі над і, мог зашкодзіць яму ў вачох ягонае духоўнае ўлады. А цяпер ужо ніякая ўлада Сваяку ня страшна, і „бараніць“ яго ні ад кога ня трэба!

Ня буду рэагаваць на спробы майго грознага крытыка „пэратасаваць“ мае словы і—пасьля такое „пэратасоўкі“—прызнаць іх нелягічнымі і пярэчучымі самі сабе. На тое-ж ён і „прафэсіянал“, каб пабіць мяне, „дасужага“ крытыка... Ня буду тлумачыць яму і таго, якая розьніца істнуе паміж паняцьцем **фармальнае** веры і **фактычнае**: гэта ён напэўна ведае ня горш за мяне. Скажу толькі, што мушу цешыцца, што ўлада ў нас яшчэ ня зусім у руках „чорнага інтэрнацыяналу“: тады пэўне-ж ні „Мая Ліра“, ні ўсе крытычныя стацьці аб ёй не пабачылі-бы дзеннага сьвятла **)...

**Ант. Навіна.**

*) Матэрыялам да выяўленьня сацыяльнага аблічча Сваяка служылі мне выбаркі з яго днеўніка, прачытаныя кс. Станкевічам у казаньні над труною нябожчыка. — А. Н.

**) Адзін з фэльетонаў аб „Маей Ліры“ ў „Голасе Беларуса“ быў сканфіскаваны п. камісарам ураду на м. Вільню, але якраз не за тое, за што крыўдзяцца на мяне кіраўнікі „Biеłar. Krynicy“. — А. Н.

# У Польшчы.

### Хваля эканамічных забастовак.

„Robotnik“ (№ 167) піша:

„Даражыня балюча абнізіла работніцкія заработкі. За час ад лістапада 1925 г. да мая 1926 г. ў самай Варшаве даражыня ўзрасла на 18 проц. Гэткім чынам работніцкія заработкі страцілі на сваей рэальнай вартасьці амаль адну пятую часьць і давялі работнікаў да катастрафальнага матар'яльнага стану. Калі дадамо да гатага што, паводлуг аблічэньня Міжнародавага Бюро працы, на дзень 1/I 1926 г. работніцкія заробкі ў Польшчы былі найніжэйшыя (з усяго сьвету), то ясным зробіцца раздражэньне работнікаў і імкненьне іх да падвышэньня „галодных“ заработкаў.

На фоне гэтых адносін у Польшчы разьвіваюцца, або знаходзяцца ў стадыі разьвіцьця—рад эканамічных выступленьняў. Выстаўлены дамаганьні выраўнаньня плат вуглякопам „Zagłębia Dąbrowskiego“. Ад двух месяцаў упорна адмаўляюць у падвышцы работнікам дзяржаўнае прамысловасьці—тытуновае манаполі.

Выставілі дамаганьне 25 проц. падвышкі работнікі валакністага промыслу на тэрыторыі места Лодзі і ўсяе галіны гэтага промыслу.

Прыступілі 18 г. м. да забастоўкі работнікі трамвайныя, электрычных станцыяў і г. д. на Паморыі, а іменна: у Торуню, Быдгошчу і Грудзёндзу.

Забастоўка ў Грудзёндзу была крывава прыпячатана паліцыяй з прычыны выступленьня работнікаў проці штрэйкбрэхераў.

У зьвязку з гэтым зьвярнулася 18 г. м. да прэм'ера Бартэля дэлегацыя клясавых прафэсіянальных саюзаў, але ня была прынята прэм'ерам быццам з прычыны браку часу.

Для поўнасьці образа трэба дадаць, што—паводле прэсы — у абастрэньні работніцкага руху іграюць выдатную ролю й палітычныя матывы.

### Крывавыя падзеі ў Гостыніне.

Як паведамляе ўрадавае тэлеграфнае агенцтва, у Гостыніне 22 чэрвеня на рынку паліцыянт гвалтам цягнуў нейкую сялянку ў вучастак за тое, што таргавала ў неадпаведным месцы, ды супрацівілася ягонаму загаду. Кабета была ўцяжку. Узьняўся крык, зьбегся народ. Паліцыянт уцёк у старостава, таўпа кінулася за ім туды-ж. Староста, каб супакоіць узбураную таўпу, сказаў, што паліцыянт будзе ўраз-жа заарыштаваны і, калі віна яго будзе даведзена, яго аддадуць пад суд. Тымчасам паліцыянта пераправілі ў каманду паліцыі. Нездаволіўшыся абяцанкай старосты, таўпа напала на памяшчэньне паліцыі, разграміла частку памяшчэньня і чуць не захапіла зложанага паліцэйскага аружжа. Тады камандат загадаў страляць. Ад залпу палягло 9 асоб, у тым ліку адна забітая на сьмерць і 8 раненых.

Паліцыя заарыштавала 20 учасьнікаў разрухаў.

### Забойства ўкраінскага „палянафіла“ Оскілка.

Пад Роўным на сваім хутары забіты стрэлам з ружжа праз вакно ведамы арганізатар партыі ўкраінскіх „палянафілаў“ (за ўрадавыя грошы) „атаман“ Оскілко.

### Віленскі прафэсар — міністрам зямельных рэформ.

Прафэсар віленскага ўнівэрсытэту п. Станевіч назначаны міністрам зямельных рэформ.

П. Станевіч сьпярша быў запісаўся ў пястоўцы, пасьля брыляўскага расколу выйшаў з партыі, але не запісаўся да Брыля. Апошні час, здаецца, уваходзіў у „Партыю Працы“,—прынамся, у яе віленскім органе „Кур. Віл.“ вёў гаспадарчы аддзел.

Якую „зямельную рэформу“ можа даць партыя паноў Касьцялкоўскіх—гэтых польскіх „трудавікоў“, што ня толькі напладзілі на карку беларускага сялянства тысячы асаднікаў, але і самі пакуплялі кругленькія, далека вышэйшыя за „трудавую норму“, часам дык „запраўды-ж абшарніцкія маёнтачкі?!...

# Заграніцай.

### Вынікі нямецкага плебісцыту.

Усенароднае галасаваньне (— плебісцыт) у справе адшкадаваньняў былым каралям за сканфіскаваныя ў іх рэвалюцыяй маёнткі, — праваліласяя. Па Канстытуцыі для важнасьці галасаваньня трэба, каб у ім прынялі ўчасьце ня менш палавіны ўсіх выбаршчыкаў у дзяржаве, ці—каля 20 мільёнаў людзей. А ў гэтым плебісцыце галасавала толькі каля 15 мільёнаў. Агітацыя правіцы і імкнулася да таго, каб сарваць плебісцыт, заклікаючы—ня йсьці да скрынак з галасамі. Як раз у дзень выбараў нацыяналісты зрабілі па ўсім краю шмат разных гулянак — дый яшчэ і бясплатных. Народ папер туды, а ў выніку яго дурнаты — з яго-ж і злупяць пасьля грошы, каб заплаціць адстаўным каралям...

Усё-ж 14½ міліёнаў галасоў было пададзена проці адшкадаваньняў. І гэта — паважнае выяўленьне волі народу!

### Няўдача Эрыо.—Новы ўрад Брыяна.

Эрыо не здалеў злажыць габінэту. Дык прэзыдэнт ізноў зьвярнуўся да Брыяна, які і стварыў новы ўрад.

Брыян запрашаў да свайго габінэту „нацыянальнага аб'яднаньня“ (чытай: буржуазнай дыктатуры!) навет Пуанкарэ і іншых павадыроў правіцы. Аднак, найвыдатнейшыя з іх адмовіліся, паслаўшы замест сябе менш выдатных. Міністрам фінансаў меў быць Пуанкарэ, а стаў—Кайо.

### Скандал у Чэха-Славацкім Сойме.

20 чэрвеня ў Чэха-Славацкім Парляманьце—пры дыскусіі аб законе аб пэнсіях духавенству — камуністы з сацыялістамі зрабілі вялікі скандал, пратэстуючы проці злучэньня царквы з гаспадарствам. Закон прыняты буржуазнай большасьцяй Сойму.

# ХРОНІКА.

**Вучні-беларусы ў Віл. Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі.** Вучні Віл. Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі па большай частцы—гэта сялянскія сыны—беларусы. Але іх усімі сіламі адрываюць ад іх „роднага карэньня“— русыфікуюць ці — цяпер — апалячываюць. Ня гледзячы на гэтыя высілкі „апякуноў“, сярод сэмінарыстаў ёсьць пара дзесяткаў актыўных сьвядомых вучняў-беларусаў. Гэтыя сьвядомыя беларусы стараюцца папоўніць сваю веду з беларусазнаўства, якое ў сэмінарыі стаіць далёка не на адпаведнай вышыні.

Вось-жа, як толькі з'арганізаваўся ў сэмінарыі літэратурна-прасьветны вучнёўскі гурток,—вучні—беларусы ў працягу гэтае зімы паставілі дзьве п'есы пабеларуску: „Лапаць“ і „Як яны жаніліся“.

Апрача гэтага сэмінарысты — беларусы імкнуліся чытаць рэфэраты з беларускай літэратуры і шмат тэмаў прыгатавалі. Але тут спаткала іх няпрыхільнасьць з боку дырэктара сэмінарыі Белявскага, які ставіць розныя перашкоды беларусам. Прыкладам, калі чытаюць сэмінарысты рэфэрат парасейску, то п. Дырэктар адразу дае дазвол і ня пытаецца, ці мае быць прысутным на рэфэраце хто з пэдагогаў, ці не; а як рэфэрат пабеларуску, то тут абавязкава мусіць быць хтосьці прысутным. Вось тут перашкода: вучыцель беларускае мовы, які назначаецца прысутнічаць на гэтых рэфэратах, часта „ня мае часу“, і рэфэраты ня могуць адбыцца. То зноў выдаў новыя ўставы ў сэмінарыі, дзякуючы якім два разы зрываўся рэфэрат на тэму: „Пачаткі пісьменнасьці на Беларусі“. Рэфэрат на тэму: „Залатая пара ў беларускай літэратуры“ ўдалося прачытаць. Гатовы да чытаньня рэфэрат: „Пачаткі друкарства на Беларусі“, але дзеля перашкодаў ня мог быць прачытаны.

**Ізноў адклад.** Польская „дэмакратычная“ і абшарніцкая прэса, роўна родная і блізкая „доктару“ Павлюкевічу, ня маючы нічога да пісаньня аб дзейнасьці „Часовае Рады“, знайшла-ткі спосаб напамінаньня польскаму грамадзянству аб істнаваньні такога „шчырага“ (ў залежнасьці ад.. сумы атрымліванае субсідыі!) прыяцеля палякоў. Прынамся разы два ў месяц—вось ужо блізу год!—яна падае весткі аб „аканчальным“ вызначэньні дня зьезду „Часовае Рады“, а пасьля—аб „адкладзе“ яго.

Надовечы йзноў „Kur. Por.“ абвясьціў аб „адкладзе“ гэнага „зьезду“, хаця ўжо была абвешчана і лічба дэлегатаў, для якіх варыцца вячэра: ажно 150!

Як відаць, і выпісаны з заграніцы „спэц“ Мамонька нічога не здалеў памагчы Павлюкевічу. На яго „зьезд“, апрача „дзеячоў дэфэнзывы“, ніхто ня квапіцца ехаць....

Цікаўна: скольki-ж яшчэ разоў будуць „назначаць“ і „адкладаць“ гэны „зьезд“?!

**Чаго нельга апісываць за падаткі.** У сувязі з скандальнымі выпадкамі апісываньня сэквэстратарамі апошняе маемасьці за падаткі, міністэрства скарбу ў сваей апошняй інструкцыі аб спагоне падаткаў выясьняе, што нельга забіраць гэтых рэчаў: 1) грошы ў касе ашчаднасьці да 2.500 зл., 2) штодзенна ўжыванае вопраткі—адпаведна да пары году, 3) бялізны і хатніх рэчаў, патрэбных нядоімшчыку і ягонай сям'і да штодзеннага ўжытку, 4) пасьцелі і ложкаў іх-жа, 5) спажыўных прадуктаў і апалу, прызапашаных на месяц, 6) абразоў сьвятых без дарагіх шат і аздоб, 7) сямейных папераў і іншых рукапісаў даўжніка, апрача вэксалёў, акцыяў, аблігацыяў і г. п. працэнтных папераў, 8) форменае вопраткі, патрэбнае на службе, 9) прадметаў, якія прызнаны законам за прыналежачыя да нярухомасьці.

**Спыненьне эміграцыі ў Аргентыну.** Урад загадаў спыніць далейшую выдачу сялянам пашпартоў на выезд у Аргентыну.

**Афіцыяльны курс грошы на 24 чэрвеня.** Даляр — 9 зл. 96 гр. Залаты рубель — 5 зл. 11 грошы.

24. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10,.20 Чырвонец 42 зл. 50 гр.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

У № 1 газэты „Народная Справа“ ад 19/VI 1926 года надрукаваны быў у канцы перадавога артыкулу „Недастойны флірт“ дадатак гэткага зьместу:

„Злыя языкі кажуць, што паслы Ярэміч і Рагуля ў часе перагавораў з польскімі партыямі „забыліся“ і аб амністыі!.. Пункт аб гэтым у „Сялянскай Ніве“ ўстаўлены быццам пасьля“.

Гэтым сцьвярджаю ад імя Соймавага Клюбу Грамады, што ў зьмесьце меморыялу, пададзенага Рагуляй і Ярэмічам прэм'ер-міністру Бартэлю, было пастаўлена трэбаваньне аб амністыі для палітычных вязьняў.

Незалежна ад нашага палітычнага пагляду на зьмест і рэальнае значэньне ўспомненага меморыялу, Грамада лічыць аднак-жа патрэбным сцьвердзіць у імя праўды, што павыжшы дадатак да артыкулу „Недастойны флірт“ ня мае пад сабою жаднае падставы.

Старшыня Соймавага Клюбу Грамады
**Б. Тарашкевіч.**

22./VI. 1926 г.
Варшава.

# Асаднікі і сяляне.

Газэта „Kurjer Wileński“ друкуе цэлы рад галасоў польскіх дзеячоў аб палітычным мамэньце і заданьнях ураду. Паміж імі зварачвае на сябе ўвагу заява сэкрэтара ваяводзкае рады вайсковых асаднікаў, нейкага п. Камінскага, які на пытаньне прадстаўніка газэты: „Чым растлумачыць ненармальныя адносіны мяйсцовае люднасьці да асаднікаў і што трэба рабіць, каб у будучыне гэтага ня было“?—сказаў:

„Бо часова няўдала выконываны ўстаў аб асадніцтве давёў да таго, што **забіралі зямлю пад асадніцтва там, дзе быў найвялікшы зямельны голад.** Правядзеньне асадніцтва апярэдзіла—ведама-ж ня з нашае віны — акцыю ўладжаньня зямельных адносінаў на вёсцы“.

Да гэтага гожа дадаць, што якраз у той час, калі сяляне йшчэ мелі сякія-такія зьберажэньні ў расейскіх рублях і марках, няўтраціўшы свае вартасьці, і маглі-бы дзе-не-дзе прыкупіць сабе зямлі,—пан Пілсудскі, які быў адзінай уладай тады ў Заходняй Беларусі, забараніў рабіць сялянам купчыя на зямлю. І гэта тады, калі паны так ахвотна гатовы былі прадаваць зямлю—ад страху перад бальшавікамі! А цяпер, калі і рублі і нямецкія ды польскія маркі „згарэлі“ ў мужыцкіх скрынях, — о, цяпер дык выдаюць законы навет аб „прымусовым“ для паноў парцэляваньні часткі дворнае зямлі — ведама-ж за грошы, якіх сялянства зусім ужо ня мае.

# З жыцьця Горадні.

✕ **Мітынг Рады Праф. Саюзаў.** 13 чэрвеня 1926 адбыўся тут у мястовай салі мітынг з гэтакім парадкам дня: 1) палітычнае палажэньне Польшчы, 2) новыя выбары мястовае рады, 3) выбары ў касу хворых і 4) безрабоцьце.

Прамаўлялі Гонэрко (ППС), Эпштэйн, Скаўроньскі, Мазуркевіч і М. Якімовіч — старшыня камітэту Бел. Сял.-Раб. Грамады ў Горадні.

Прыняты 4 рэзалюцыі.—У першай выстаўлена дамаганьне раб.-сялянскага ўраду і зямлі бяз выкупу. У другой пастаноўлена, у зьвязку з страшным палажэньнем безработных, тварыць саюзы безработных дзеля барацьбы за хлеб і працу. У трэцяй—дамагацца новых выбараў у мястовую раду і зацьвярджэньня выбараў у касу хворых, якія скасаваў урад Вітаса.

Дэпутата ў Сойм ад беларускай Сял.-Раб. Грамады Валошына—ППС не дапусьцілі да слова, ня гледзячы на гарачыя пратэсты з боку сабраўшыхся работнікаў.

✕ **Крадуць!** З 18 на 19 мая с. г. кіраўнік з Беластока бюра пасрэдніцтва працы і горадзенскі староста зрабілі рэвізію ў дзяржаўным бюры пасрэдніцтва працы ў Горадні і выкрылі кражу. Аказалася, што кіраўнік пасрэдніцтва працы ў Горадні Дзюлкоўскі пры адпраўцы людзей, якія выяжджалі на працу ў Францыю, браў з іх за білеты па 20 злотых, а сам плаціў па 9 злотых, гэта знача па 11 злотых з кожнага білету клаў у кішэнь; апрача гэтага браў грошы за заграчічныя пашпарты, якія павінен быў выдаваць бясплатна. Дзюлкоўскага пасадзілі ў вастрог у Горадні.

**Нёман.**

✕ **Арышты.** 13 чэрвеня с. г. у м-ку Індуры, пад Горадняй паліцыя арыштавала Аляксандра Кішкеля, Лагоду, Шыпіцу і інш.

Усіх іх абвінавачываюць, як ужо бывае гэта заўсёды, у справе камуністычнай. **Плуг.**

# Т-ва Беларускай школы у Радашковічах.

З дазволу Віленскага Школьн. Куратарыуму пры Беларускай Гімназіі ў **Радашковічах** адчыняюцца **летнія курсы для вучыцялёў беларускіх школ**

На курсах будзе выкладацца: **палянystыка** (курс пачатковы і канцовы па праграме Мін. Асьветы) і **беларусазнаўства**.

Для курсантаў ёсьць інтэрнат з кухняй (харчы павінны мець свае).

За курсы плата **25 зл.** Бяднейшыя могуць быць ад платы звольнены.

Прымаюцца толькі маючыя званьне вучыцеля пачатковай школы. Кандыдатаў просяць запісацца на курсы загадзя (далёкія па пошце). Лік курсантаў абмяжаваны.

Пачатак лекцыяў на курсах будзе 12 ліпеня 1926 году.

АДРЭС: **м. Радашковічы** (Radoszkowicze) Віленскага ваяв.); ст. чыгункі: **Аляхновічы** (Olechnowicze).

Старшыня Т-ва Беларускай
школы ў Радашковічах
**А. Уласаў, сэнатар.**
Сэкрэтар **Я. Гаўрылік.**

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту.** **Рэдакцыя.**

## Прагавітыя.

(З Дзісьненшчыны).

Сьвяшчэньнік Блажэнскае царквы—Зыбойла браў на пачатку мясаеда за абвестку і шлюбнае пасьведчаньне—12 зл. Некалькі дзён пасьля ад жыхара П. Дубоўскага ўзяў ён 15 зл., а ад Шулькевіча яшчэ пазьней—24 зл. Чым бы гэта кончылася, каб мясаед патрываў яшчэ некалькі тыдняў?

Гэты самы „лекар душы“ ўвосені ўмовіўся з жыхарам в. Сяльцо — Навойчыкам на 30 зл. за шлюб, а калі апошні прыехаў у царкву — патрэбаваў 40 зл. Малады таргаваўся, але „ацец“ замкнуў цэркаў і пайшоў дамоў. Прыйшлося заплаціць: вясельля-ж—не адложыш.

Наш поп прыкупіў сабе нядаўна затое 20 дз. зямлі, і затым ён — вораг прымусовай парцэляцыі...

---

Жыхарка паўстанку Палевачы Завадская мусела ісьці да сьледчага. Была яна цяжка хворая і паслала сына да дохтара прасіць пасьведчаньня. Соймікавы доктар адказаў, што пасьведчаньне дасьць, але за... 20 зл. У нашага брата 20 зл. не валяюцца. Гэта трэба было-б месяц працаваць ды ня есьці за гэты час нічога. А дзе тая праца?

---

Абшарнікі і фабрыканты прывялі нас да торбы.

Чым больш край бяднеець, тым хутчэй стараюцца яны набіць сабе кішэню, каб на выпадак „бунту хамаў“ не ўцякаць з пустымі рукамі.

Гледзючы на іх не астаюцца і малыя рыбы; кожны, хто так ці іначай можа лупянуць мужыка, робіць гэта, сколькі можа... **Нядоля.**

## Раскідываюць народныя грошы.

(Пархвенаўшчына).

Хачу пісаць аб „kursach wieczorowych“, якія шмат дзе цяпер адчыніліся. Ведаю, сколькі-б сьвятла яны маглі прынясьці нашай цёмнай вёсцы; але паглядзіце, што ў нас на іх робіцца, — дык пераканаецеся, якое гэта марнатраўства грошаў.

У вёсцы Целяшы істнуюць курсы. Запраўды гэта ня курсы навукі, а курсы танцаў і флірту. Вучыцеля там ніколі няма, гарыць лямпка, сядзіць „dozorca“ ды па кутох любяцца „слухачы“. Што-ж — гэта іх справа, але інспэктар плаціць вучыцялём не з сваей кішані!..

У вёсцы Ветахмо вучыцель таксама „наладзіў“ курсы. Ён шчыра ўзяўся за работу.... ды выкладаў аб тым, што ў нас з прадвеку была Польшча, што наша мова—скалечаная польская і г. д. На курсы перасталі людзі хадзіць.

Бачыў я гэтыя самыя курсы і на пагранічч. Там уся ўвага зьвернена на тое, каб пераканаць курсанта, што польская армія найдужэйшая і найадважнейшая.

Так і ўспомніліся словы вялікага францускага пісьменьніка Анатоля Франса: „кожны народ мае дужэйшую за ўсіх армію“.

Найбольш пахабна выглядаюць курсы ў Вознаўшчыне, пад загадам вядомага п'яніцы вучыцеля Ладоцкага. Гэты пан зрабіў сабе курсы з шостага і сёмага аддзелу школы, каб толькі выгнаць грошы. Чаго ён там іх вучыць, — няведама. Ведама толькі адно: пан вучыцель тры разы ў тыдзень бывае... цьвярозым!..

Кажуць, Польшча бедная, грошаў няма. А вось, бачыце: ёсьць, сколькі хочаш, толькі не на тое, на што трэба. **Свой.**

## Вырадак.

(Мала-Бераставецкая гм., Горадзенскага пав.).

Жыве ў нас у вёсцы Пыхаўцы Павал Міськевіч, які нейкі час, „працаваў“ для дэфэнзывы. Найбольш балюча і агідна тоеі што сам ён—мужык, малады хлапец, сусед.

Міськевіч служыў у гміне і там яго зацягнулі ў сеці. Цяпер дэфэнзыва ў кожнай вёсцы стараецца мець „свайго чалавека“. Грашэй хапае, грошы даець.

Гэты вырадак, ня могучы выкрыць нічога, пачаў займацца правакацыяй, абвінавачываючы нявінных людзей у камунізьме. Апошнімі яго ахвярамі былі два вучыцелі (аднаму з іх 60 гадоў). Абодва яны мусяць „мэльдавацца“ ў паліцыі і над абодвымі вісіць суд, хоць яны саўсім нявінныя.

Але найлепшаму сабацы—сабача чэсьць. Патрымалі, выкарысталі, далі каленам і выгналі... Ходзіць цяпер ён на працу да Падбагоніцкага жыда, а прададзеныя ім людзі церпяць. Народ тутэйшы даў яму імя **Юды.**

Хай аб ім ведаюць усе!..

**З пад Боба—Гайсні.**

## Свой свайго хваліць, а праўду ганіць.

(З Міжавіцкае гм. Слонімск. пав.).

Ведамы ўсім Паўлюкевіч, чыноўнік паліцыі па беларускім справам, ня толькі вядзе сваю ашуканскую працу па вялікіх мястох, але яшчэ мае і на вёсцы сваіх прыхвасьняў. Большасьць іх — гэта прыездныя, якія прымазаліся да беларускага мужыка і яго чорнага хлеба. Сумленьне іх ня толькі пазваляе ім аблаяць мужыка-беларуса славамі: хам, чубарык і інш., але й пусьціць у патрэбе кулю ў лоб. Гэтакія вырадкі ёсьць і ў нашай гміне. Адзін з іх (ведаем мы яго) зьмясьціў у 10 нумары „Беларускага Слова“ пад загалоўкам „Голас вёскі“ і пад псэўданімам Багдан С., карэспандэнцыю, якая ад пачатку да канца—адна мана. Няўжо-ж можна паверыць, каб у-ва ўсей гміне, у якой больш за 20 вёсак, не знайшлося кандыдата на войта? Гэта брахня. Гмінная рада два разы выбірала войта са сваіх людзей, але Слонімскі Староста чамусьці не зацьвярдзіў ніводнага з іх, а назначыў на пасаду войта няведамага нашаму жыхарству чалавека па прозьвішчу Чэлей, якога Рада саўсім ня ведала і не выбірала.

Далей гаворана ў карэспандэнцыі, што ён, войт, вельмі добры чалавек. Можа, трошкі й лепшы за тых, хто яго хваліць, але для беларускага мужыка дабра ад яго няма. Ці ня ў тым,—запытаюся,—дабрата войта Чэлея, што забірае апошнюю адзежыну ў згалелых сялян, як гэта было ў в. Мыслава, дзе за пару злотых „залеглых“ падаткаў у Якуба Жыліча і інш. забраў падушкі і кажухі?

У канцы карэспандэнцыі Багдан С. — прыхвасьцень Паўлюкевіча—да таго расхваліў свайга „бацьку“ і яго орган „Беларускае Слова“, што ў захапленьні ня бачыць, што робіцца навокал яго, да чаго імкнецца беларускі народ захалуснай вёскі, ня кажучы аб больш-меньш сьвядомых. Ня бачыць і тых адносінаў і прыхільнасьці сялян беларусаў да адзінае заступніцы—усіх пакрыўджаных газэты „Беларуская Справа“; з якой радасьцю, вераю і надзеяй на лепшую будучыню чытаецца кожнае слова праўды, надрукаванае ў ёй!

Селянін-беларус захалуснай вёскі кажа вам, Паўлюкевічы і ўся хэўра: годзе ўжо дурыць галовы працоўным беларусам, годзе ўжо пашыраць хлусьню на ўсіх чэсных працаўнікоў на беларускай ніве, годзе ўжо праўду ганіць, бо праўды нічым не пагасім!

Прэч з дарогі, злыя сілы!

**Мужык з захалусьця.**

## Самаўрады.

(Слонімшчына).

Войт гміны Чэмерскай Корчыц падаўся ў адстаўку. Баяўся, відаць, аставацца больш на цёплым, наседжаным мейсцы, бо голасна пачалі тутка гаварыць аб „nadużyciach“ пры спагоне падаткаў і ліцытацыі сялянскай маемасьці.

16/V адбыліся новыя выбары, але тоўку з іх, хоць староста яшчэ не зацьвердзіў,—мусіць будзе мала.

Гмінную раду ніхто не выбіраў: яна яшчэ была „назначана“ з 1920 г. і сядзіць якось моцна ўвесь час. У 1923 г. знайшліся ў ёй людзі, якія хацелі распусьціць самі сябе. Але-ж адно хочаш, а другое можаш! Рэфэрэнт самаўраду п. Лісоўскі пагразіў арыштамі,—дык усё і супакоілася. Цяпер гэтая самая Рада і выбрала войта.

**Касьцяневец.**

## Баяцца праўды.

(З Слонімшчыны).

Вёска Шундры, Дзеравенскай гм., жалілася ў гэтым годзе паслом Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады на надлясьнічага, які змушаў сялян да паншчыны. Гэты панок пісаў пратаколы на тых, хто яго ня слухаў, а ў аднаго пастуха памоцнік надлясьнічага страляў. Паслы справу гэтую скіравалі ў „Міністэрства Рольніцтва“, а копію інтэрпэляцыі памясьцілі ў газэце. Лясьнічы Каліноўскі, пачуўшы, што аб яго гвалтах ведае ўся Польшча, стаў думаць, як ачысьціцца ад закідаў.

Труднасьцяй тут вялікіх ня было, бо сваім слугам ён можа загадаць, што хоча, але ўстроіўся ён хітрэй. Каля вёскі Шундры ёсьць кавалак казённай зямлі, дзесяцін 4, належачы да Каліноўскага. Гэтую зямлю рабіў на трацяк солтыс Васіль Якімовіч.

Вось за солтыса Каліноўскі і ўзяўся. Хаця зямлю загараў і ўгноіў солтыс,—аддаў ён яе другому чалавеку—Пятру Шундруку.

Шундрук, ня маючы сумленьня, забраў чужую працу. У солтыса бяда, — пабег ён да лясьнічага прасіць, каб не адбіралі зямлі. Лясьнічы, ясна, выкарыстаў сваю сілу. Пачаў ён гаварыць аб тым, што яго нявінна ў газэце лаялі і г. д. І хутка згаварыліся...

На заўтра прыехалі да солтыса надлясьнічы з лясьнічым ды далі яму і памоцніку падпісаць нейкі пратаксл, што вёска паншчыны не адрабляла. Солтыс—непісьменны, памоцнік яго ўмее толькі падпісацца, што там напісалі паны—ніхто добра ня ведае.

Зямлю пасьля гэтага аддалі ўзноў Якімовічу. Надлясьнічы цяпер мае „дакумант“. Купіў ён за кусок зямлі солтыса, які здрадзіў тых, што яго выбіралі, здрадзіў праўду. **Н.**

## Прыгон.

(Стаўпецкага пав.).

У Польшчы, апрача падаткаў, істнуе яшчэ такзваная натуральнвя павіннасьць. Мы, сяляне Засульскай гм., Стаўпецкага павету, атрымалі нядаўна загад перавязьці 4.000 куб. мэтраў пяску, каб зьмяніць цячэньне ракі Сулы. Працаваць каля гэтага трэба было бясплатна амаль усё лета— час, патрэбны на палявыя работы, не зрабіўшы якіх, ня будзем мець ні самі чаго есьці, ні даць скаціне.

Просіма паслоў Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады заступіцца за нас у гэтай справе.

**Сяляне.**

**Ад Рэдакцыі.** Як мы даведаліся, нашы паслы заняліся гэтай справай і паведамілі сялян, што дамаганьне адміністрацыі—зусім незаконнае, дык яго няма патрэбы спаўняць. Сяляне, цьвёрда трымаючыся за сваё законнае права— не выпаўняць супярэчных з законамі загадаў улады, — адмовіліся вазіць пясок і напэўна справу выйграюць.

# Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад: — кс. М. Барыслаўскага, Аляксандра Грэся, Мікалая Ёды, Якіма Белевеца, Янкеля Кантаровіча, Ігната Лапаты, Міхала Нехвядовіча, Яна Валынца, С. Мазурэка, Леаніда Бялькевіча, Мікалая Озябло, Антона Кавальчука, Яна Кузьміча, Міхала Ефімовіча, Сяргея Тычкі, Лявона Шанцілы, Мікалая Уласэвіча **па 4 зл.**

Ад:—Яфіма Дабрыяна, Д-ра Гольдбурга, Лявона Дабрыяна, Сьцяпана Шэлоніка, П. Лабоцкага, Уладзімера Попкі, К. Патоцкага, Пятра Сяўрука, Паўла Самайловіча, Барыса Бройкі, Базыля Кратовіча, Кірылы Родзюка **па 5 зл.**

Ад:—Яна Брыля і Канст. Кліма **па 5 зл. 50 гр.**

Ад:—Марка Ходзькі, Юліяна Стрыхара, Тодара Сьвірыды, Язэпа Загорскага, Паўла Анопа, Зеновія Віктаровіча, Яна Мукасея **па 6 зл.**

Ад:—М. Шапавала і Данілы Белько **па 7 зл.**

Ад:—М. Фульдэ, Аляксея Кузьміча, Міхала Карповіча **па 8 зл.**

Ад:—Каапэрат. „Зожа“ — кс. Ігната Раманюка, Аляксандра Протаса, Тодара Ждановіча, Ст. Любіч-Маеўскага, А. Якімовіча, Якуба Ганэцкага, Язэпа Саньчука, Мадэста Нерыка, Максіма Маняка, Аляксея Патаповіча **па 10 зл.**

Ад:—Аляксея Мамая—6 зл. 35 гр., Рыгора Осіпіка — 4 зл. 50 гр., М. Шэхэр і Канст. Шымкевіча па 12 зл., Алякс. Троцкага і Яна Вайткоўскага па 3 зл. 50 гр., Пятра Пілюціка—6 зл. 60 гр., А. Кандратьева—1 зл. 20 гр., Канст. Сьцебуракі—7 зл. 50 гр., Тодара Сапегі—5 зл. 30 гр., Пятра Бельскага—14 зл., Арк. Цітовіча—3 зл. 80 гр.



*Беларусы, пішыце ў „Беларускую Справу“ аб жыцьці—быцьці нашае вескі, аб крыўдах, зьдзеках і паняверцы, робленых вам адміністрацыяй, аб гмінных справах, школе і г. п.—пішыце аб сваіх ворагах і прыяцелях. Пішыце коратка і ясна, падаючы дакладна факты. У карэспандэнцыі канешна падавайце адрэс свой і скуль карэспандэнцыя. Пішыце свае прозьвішча (толькі для ведама рэдакцыі), бо бяз адрэсу і прозьвішча карэспандэнта карэспандэнцыі зьмяшчацца ня будуць.*

Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22 Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**